Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 19. Вільня, 19 ліпня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Менскія арышты.

За апошні месяц у Б.С.С.Р. адбыліся падзеі, якія будуць мець вялікае палітычнае значэньне для лёсаў беларускага палітычнага руху.

Пабачыўшы значны ўзрост сэпаратыстычных, незалежніцкіх ухілаў, выразна скіраваных процію бальшавіцкае дыктатуры і да адарваньня Беларусі ад Маскоўшчыны, савецкі ўрад кінуўся на самыя крайнія сродкі, каб задушыць гэты нацыяналістычны рух.

У зьвязку з гэтым, крута мяняецца палітыка ў адносінах да Беларусаў. Ад толеранцыі беларускага нацыянальнага руху Масква пераходзіць сяготоньня да вострых рэпрэсіяў. Нованазначаны дыктатар, вядомы ўжо з 1917 — 20 году, як кат і вораг беларушчыны, Вільгэльм Кнорын узяўся за працу, не жартуючы. Ён распраўляецца з беларускімі камуністымі, якія шчыра ўзяліся за культурную працу. Найвыдатнейшыя з іх, як Ігнатоўскі і Чарвякоў, звальняюцца з сваіх пасадаў і пападаюць пад апалу. Адначасна з гэтым пад кіраўніцтвам таго-ж Кнорына пачынаець энэргічную працу Г.П.У. Сотні маладых беларускіх інтэлігэнтаў пападаюць у вастрог. Сярод арыштованых знаходзяцца і старыя беларусы-адраджэнцы і моладзь з Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту і настаўнікі, і сяляне, і нават чырвоныя ахвіцэры.

Гэныя арышты ня носяць часовага характару, бо арыштованых трымаюць вельмі строга і фабрыкуюць процію іх судовыя працэсы; каб апраўдацца перад грамадзянствам, бальшавікі распускаюць весткі, што арыштованыя залажылі нейкую тайную арганізацыю і арганізавалі тэрорыстычныя замахі на камуністых. Уся гэтая брахня бальшавікоў шыта белымі ніткамі, і ім проста ходзіць аб тое, каб здэзарганізаваць беларускі нацыянальны рух і найбольш актыўных беларусаў адарваць ад працы па ўсьведамленьню народу.

Менскія арышты зьяўляюцца моральным ударам для тых беларускіх дзеячоў, якія трымаюцца ўсходняй орыентацыі і маюць нейкія ілюзіі абапёрціся на Маскву пры будаваньні Беларусі. У гэтым найбольшае палітычнае значэньне адбыўшыхся ў Менску падзеяў.

Не дарма былыя грамадаўцы, дачуўшыся аб звальненьні Чарвякова апусьцілі вушы і знаходзяцца ў стане нейкае моральнае дэпрэсіі і развалу. Рэч зразумелая. Захапіўшыся бальшавіцкаю нацыянальнаю палітыкаю, яны бачаць сягоньня, што памыліліся, бачаць, што бальшавікі зусім ня лічацца з беларускаю воляю; хоць-бы нават і „грамадаўскаю“ і вядуць чыста маскоўскую імпэрыялістычную палітыку ў адносінах да Беларусі.

---

## Ці-ж для славы?...

*М. Васільку.*

Ці-ж для славы пясьняр
Песьні - думы сьпяваў
І сярод цёмных хмар
Агонь - блеск расьсяваў?
Ці-ж для славы?... О, не!
Ён увагі свае
На яе не зьвярне,
Ён сьмяецца з яе.
Бо гусьляр — як струна,
Народ грае на ёй,
Толькі чуе яна,
Што й ён чуе парой.
Ўскалыхнецца струна,
Сумна стогне яна;
Ці-ж яе тут віна?
Не! яе старана,
Народ родны і край
Такім стогнам зьвініць,
Гэту пэсьню - адчай
Струна зловіць—ўтарыць.
Так, нам трэба жыцьця,
Болей сілы - агню!
Так, ды ўсё-ж пачуцьця,
Пачуцьця глыбіню
Часта сум закране
І прымусіць цябе;
На шлях нудны папхне,
Пяяць песьні жальбе.
Не для славы струна
Зьвініць - грае парой;
Перадасьць нам яна,
Што люд грае на ёй.

*Вітэблянін.*

## Распад Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Апошнімі днямі ў Вільні адбыўся раскол Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Частка сяброў Нацыянальнага Камітэту на чале з паслом Ярэмічам, кс. Станкевічам і іншымі, незадаволеная палітыкаю Беларускага Нацыянальнага Камітэту, склікала рэвалюцыйным парадкам сход сваіх прыхільнікаў з „Сялянскага Саюзу“ і з Хадэцыі — і на гэтым сходзе, які адбыўся 2-го ліпня, выбрала свой прэзыдыум Нацыянальнага Камітэту ў складзе старшыні сэнатара Багдановіча, сяброў Ярэміча і Карузы.

У чацьвер, 14-га ліпня, адбыўся сход рэшты сяброў (большасьці) Нацыянальнага Камітэту, якая ня прызнала правамочным паўстаўшага другога Камітэту і ў газэце «Наша Праўда» назвала Ярэміча і яго прыхільнікаў машэньнікамі. Чым скончыцца барацьба паміж гэтымі двума Камітэтамі — невядома. І комэнтары да падобных зьяваў даваць вельмі трудна.

### Правы для Віленскае Беларускае Гімназіі.

Віленская Беларуская Гімназія мае з пачаткам новага школьнага году атрымаць правы дзяржаўных школаў. У зьвязку з гэтым школьныя ўлады праводзяць рэарганізацыю Гімназіі дзеля падняцьця яе праграмы на вышыню агульна - дзяржаўнай праграмы сярэдніх школаў.

Гэты крок школьных уладаў бязумоўна трэба вітаць, абы толькі ён быў шчыры.

## Дзеці цемры.

I.

Прыгожы невялічкі хутарок, патануўшы сярод ніваў дасьпелага збожжа, ўжо гатовага да жніва, і ацэнены старымі, векавымі ліпамі і дубамі... Мусіць сягоньня там адбывалася якая ўрачыстасьць, калі далёка ўва ўсе бакі ад яго разьлягаецца музыка. Па дарозе, вядучай да хутару, ідуць хлапцы і дзяўчаты з блізкіх вёсак. Старыя й тыя ідуць апіраючыся на кій.

У хутары народу поўна; на тоўстай калодзе сядзяць два музыканты адзін з скрыпкай, другі з гармонікам і граюць, што ёсьць сілы. Вырастак-хлапчук лупіць у бубен у такт ім. Насупроціў музыкантаў лятаюць і круцяцца пары скакуноў.

— Мацней грайце, мацней!—раз-па-раз чуецца ў натаўпе, які акружае іх.

І музыкі стараюцца яшчэ; а хлапец, б'ючы ў бубен, аж пачырванеў увесь з натугі... Далёка разносяцца гукі музыкі і выкрыкі: „Гэй-га, гэй-га!“

Людзі старэйшыя ня скачуць; яны паселі на калодзе, дзе сядзелі музыканты, разам з гаспадаром хутару, старым сівым Пётраю, і займаюцца паважнымі размовамі.

— Доўга, ведаеш, я трымаў тую кабылу: але і кабыла была!—пашукаць трэба,—кажа гаспадар нейкаму другому чалавеку, што сядзіць ля яго.

— А я, як куплю каня, то добры, здавалася, быў,—пачынае казаць нейкі нестары яшчэ чалавек, стоячы, залажыўшы рукі назад;—глядзеў я яго ўсюды, —на конях я знаюся, дзякуй Богу, добра: — і ў зубы, ў капыты, хвост падымаў... Ты чаго, дурань, рагочаш? — раптам са злосьцю сказаў ён нейкаму хлапцу, каторы, ўчуўшы яго словы, засьмяяўся; — будзеш гаспадарыць — сам тое рабіць будзеш... Купляючы скаціну, мусіш усюды паглядзець і пад хвост нават... Тфу!

II.

— А вы музыкантаў замучылі, як я бачу, — сказала гаспадыня хаты, здэраў баба, стоячы ў дзьвярох: — усё граць ім кажаце, а гарэлкай і не пачастуеце!

— Праўду, дальбог праўду маці кажа! — крыкнуў адзін з хлапцоў, адводзячы дзяўчыну, з каторай ён скакаў, на месца;—трэба пастарацца гарэлкі і закускі... Гэй, музыканты, годзі граць, хадзеце ў хату.

— Дзяўчаты, шукайце закускі якое, для музы-

# Ня пытай.

Ня пытай у мяне,
Чаму песьня мая
Гэтак сумна гучыць?
Зразумей! — то праклён,
То адбітак тых дзён
Ў сэрцы болем дрыжыць.
То ня плач, о павер!
Гэтак ранены зьвер
Стогнам жаль у душы выклікае,
Не адчаю то сьпеў,
Гэтак змучаны леў
З енкам клетку няволі ламае.
Мой братко, ня пытай:
Я—ад плуга ратай,
Не магу я пяяць аб прадвесьні,
Покі ў сэрцы зіма,
Навокал мяне цьма —
Я пяяць буду сумныя песьні.
Не поэт я — о, не!...
То стварыла мяне
Маіх брацьцяў пакута-нядоля.
Я ўсяго — Васілёк,
Мяне лёс незнарок
Тут пасеяў між роднага поля.
Міла мне паглядаць,
Як хвалююць-шумяць
Каласочкі на вузенькіх нівах,
Ветрык ледзь скалыхне,
Заварушыць-памкне,
Песьціць ласкаю іх жартаўліва.
Я жыву той красой,
Калі з срэбнай расой
Загуляюць праменьчыкі сонца,
Тых блакіт вышыня
Дзіўным росквітам дня
Усьмяхаецца роднай старонцы,
Запытай у мяне,
Чаму весела мне,
Чаму сум мой тады дзесь зьнікае,
Ажывае ў грудзёх
Моц — бадзёрнасьці дух,
Вера ў яснасьць прыгожага мая.
Як кіпіць тады кроў,
З душы льлюцца бяз слоў
Гымны шчасьця да сонца-прастору,
А той песьні ў тон
Мой нясецца праклён
Людзкім бедам, злой цемры і гору.

*Міхась Васілёк.*

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### Мае рацыю.

Лаяў аднаго разу бацька сына за тое, што сын доўга сьпіць і, хочучы яго ўзахвоціць да раньняга ўставаньня, прытачыў яму факт, як нехта, ўстаўшы рана, знайшоў мяшок золата.

— Але той, што згубіў мяшок золата, мусіў яшчэ раней устаць, — адказаў сын.

### Цікавасьць.

— Мама, ці праўда, што людзі родзяцца з зямлі?

— Нашто гэта табе?

— Бо... бо ўчора пан Хлісіцкі пытаўся ў таты аб вас, кажучы: „А скуль ты сабе гэткую бабу выкапаў“?

Падаў Ігнат Бяздольны.

---

кантаў, а мы гарэлкі дастанем!—крычаў тымчасам другі, сьціраючы з распацелага твару пот хустачкаю.

Музыканты, з сынам гаспадара Андрэем, увайшлі ў хату. Чыста было ў ёй, пахла мятаю і яшчэ нейкімі травамі.

— Сядайце за стол! — запрасіў іх Андрэй, — гарэлкі зараз прынясуць, закускі добрае—ўпоім вас.

— Дзякуй, нічога: мы негалодныя, — казалі музыканты, сядаючы за стол.

— От, мала, што вы кажаце...

Хутка на стале зьявілася каўбаса, кавалкі кумпяка і, нарэшце, цэлых сем бутэлек гарэлкі.

— Што вы? ці-ж мы вып‘ем усё? — казалі зьдзіўленыя музыканты.

— Нічога, усьмяхнуўся Андрэй: — мы вам паможам; чацьвёра хлапцоў склалася на гэную водку, а вось я ахвярую восьмую бутэльку.

— А я дзевятую! — разьлёгся піскліві голас. Усе аглянуліся. Гэта казаў стары Антось, якога ўсе лічылі дурнем.

— Ого, Антось, хоць і не скакаў, але гарэлку дае,—зарагаталі ўсе.

— А што-ж: трэба падтрымаць людзей,—адказаў той, забаўна крывячыся.

Пачаўся пачастунак; адбілі бутэльку гарэлкі, налілі вялізарную чарку і далі старому Пётры—гаспадару хаты. Потым налілі музыкантам, за імі выпіў Андрэй. За ім пачалі падыходзіць і іншыя хлапцы, што скаліся на водку. Дзяўчатам давалі таксама і яны пілі ахвотна.

III.

Весела зрабілася ў хаце; нехта зацягнуў песьню. Рэшта падхапіла. Потым нехта вылаяўся брыдка і засьпяваў іншую песьню, даволі няпрыстойную. Языкі, разьвязаныя алькоголем, разышліся ўва ўсю. У хаце стаяў характарны пах гарэлае водкі, зьмешанае з чалавечым выдыхам.

— Стой, трымай яго, с.... сына! — крыкнуў раптам нехта: — заб‘ю!

I хлапец, што на падворку заклікаў дзяўчат нясьці закуску, кінуўся з нажом да Андрэя. Той выскачыў на падворак і ўхапіў сякеру.

— Падступі цяпер!—казаў ён, ледзьве стоячы на нагах.

— Заб‘ю, зарэжу... — хрыпеў другі, махаючы нажом і хістаючыся; ў канцы ня вытрымаў і ўпаў на зямлю. Нож адляцеў далёка, яго ўхапіў гаспадар хаты, даволі нецьвярозы таксама. Маці падыйшла да Андрэя:

— Кінь сякеру, кажу табе!

# Корэспондэнцкі.

## Ліквідацыя сэрвітутаў.

### (Пастаўскі павет).

11 лютага с. г. была апублікована шырокая устава аб ліквідацыі сэрвітутаў на Ўсходніх Землях Польшчы, ў якой было падробна сказана, якім парадкам гэта ліквідацыя павінна быць праведзена і якую нагароду пры гэтай ліквідацыі павінны адтрымаць усе сяляне, якія маюць агульныя з абшарнікамі сэрвітуты. Дзеля таго, што справа ліквідацыі сэрвітутаў зьяўляецца для сялянства вельмі важнай, я хачу крыху высьвятліць, якім парадкам гэту ліквідацыю сэрвітутаў пачынаюць праводзіць на мясцох.

Здаецца, што гэтай справай павінны былі заняцца ў нас павятовыя зямельныя камісары, дзеля таго, што яна належыць выключна да компэтэнцыі павятовых зямельных урадаў, але гэта толькі так здаецца, а запраўды ёсьць ня так. Наш Зямельны Камісар Пастаўскага павету не паведаміў тых вёсак, якія маюць сэрвітуты для ліквідацыі з абшарнікам п. К. Пшэздзецкім, на падставе якой уставы гэта ліквідацыя павінна быць праведзена і якую нагароду, паводле тэй уставы, пры ліквідацыі, сяляне маюць права адтрымаць.

Успомненая вышэй устава, абвешчаная ў "Дзен. Уст." № 10, за 11 лютага 1927 г. кажа, што аснаўной нормай нагароды пры ліквідацыі сэрвітутаў ёсьць $^1/_3$ часьць абшару, да якога належыць права сэрвітуту, аднак гэтая норма яшчэ ня ёсьць абавязваючай ува ўсіх выпадках пры ліквідацыі. Гэтая-ж самая устава далей паясьняе, што аснаўная норма нагароды пры ліквідацыі ў шмат якіх выпадках можа быць больш як $^1/_3$ часьць сэрвітуту. У некаторых выпадках гэтая норма будзе раўняцца нават $^1/_2$ ўсяго абшару, да каторага належыць права сэрвітуту. Паводле гэтае уставы, сяляне могуць адтрымаць часьць сэрвітуту, залежную ад абшару іх надзельнай зямлі. Чым больш яны будуць мець свае надзельнае зямлі, тым больш могуць адтрымаць сэрвітуту. Аднак у гэтым выпадку будзе брацца пад увагу $^1/_3$ часьць сэрвітуту, каторая тады павінна раўняцца $^1/_4$ і менш усяе надзельнае зямлі. У выпадку, калі $^1/_3$ часьць сэрвітутнага абшару будзе перавышаць $^1/_4$ часьць усяе надзельнае зямлі, якой карыстаюцца сяляне, то тады сяляне адтрымаюць толькі $^1/_3$ часьць сэрвітуту.

Калі сэрвітутны абшар пасьбішча зьяўляецца ў некалькі разоў большым за агульны абшар надзельнай зямлі, то ў такіх выпадках, сяляне пры ліквідацыі могуць адтрымаць нават такую часьць сэрвітуту, каторая будзе ў два разы большай за агульны абшар надзельнай зямлі, якой яны карыстаюцца.

Як бачым, гэтая устава аб ліквідацыі сэрвітутаў, у некаторых выпадках, дае сялянам магчымасьць адтрымаць нагароду больш як $^1/_3$ сэрвітутнага абшару. Нажаль, сяляне выкарыстаць яе ня могуць, бо аб ёй бадай што нічога ня ведаюць. А тыя часам „plenipotenci" нашага п. Пшэздзецкага, хочуць сялянскую нясьведамасьць выкарыстаць. З гэтакай мэтай яны заводзяць з сялянамі „pertraktacje" ў справе ліквідацыі сэрвітутаў і тут змушаюць апошніх падпісаць нейкую умову, паводле каторай тыя згаджаюцца сэрвітуты

---

Той паглядзеў на яе мутнымі, быццам шклянымі, вачыма і выпусьціў сякеру з рук. Яна была зараз-жа прыбрана.

— Ідзі цяперака да хаты,—сказала маці сыну, бяручы адначасна яго за руку.

Той паслухняна пайшоў з ёю.

Гаспадар, тымчасам, выцягнуў вядро вады з калодзежа і зьліў яе на ляжаўшага п'янага хлапца. Той мамэнтальна скочыў на ногі.

— Вон з майго падворку, сьвіньня! — крычаў на яго гаспадар, — вось што выдумаў: з нажом кідацца на чалавека! Вон, каб ня быў!

Хлапец, хістаючыся, выйшаў з падворка. Выйшаўшы з варотаў, адвярнуўся і падняў кулак, грозячы.

— Я... я табе... — Але больш сказаць нічога ня мог, і няцьвёрдым шагам пайшоў па дарозе.

Праходзячы праз лужу, што ня высахла яшчэ пасьля дажджу, стаў у ёй.

— „Што гэта—возера? — пытаўся сам сябе, — не — люстра; лягу спаць тутака!"

І, пахіснуўшыся, ўпаў у лужу.

— Сьвіньня свіньнёю! — сказаў гаспадар, убачыўшы гэта з падворку, бо лужа была недалёка, і пайшоў у хату.

Там, на ложку ляжаў Андрэй і спаў. Адзін з музыкантаў спаў на лаве, трымаючы пустую бутэльку ў руцэ; другі ляжаў на падлозе ў самай нявыгаднай пазыцыі.

„А хто там пад сталом ляжыць"? — падумаў гаспадар і паглядзеў пад стол: там ляжаў яго меншы сын Васіль.

Бубен ляжаў каля яго. Стары Пётра пачаў адшпільваць дзягу...

„Але хай ужо будзе так"! — падумаў, зашпіліў дзягу і пайшоў у сумежны пакой. Хутка галоснае хрыпеньне абвясьціла, што гаспадар заснуў.

### IV.

А на падворку ўжо ня было нікога, ўсе разышліся. П'яны хлапец ляжаў у лужы і смачна хроп.

Сонца заходзіла і прашчальныя праменьні яго аблівалі золатам збажавыя нівы, блізкі лясок і вёсачку каля яго, і вярхі дрэваў, што расьлі ў хутары... Ціша і мір распаўсюджваліся ў прыродзе.

Месяц залаты паплыў па сінім небе, абліваючы зямлю сваім халодным чароўным сьвятлом, калі Іван, — так звалі п'янога хлапца, ляжаўшага ў лужы, — прачхнуўся.

„Брр... як холадна!" — сказаў сам да сябе. „Але дзе-ж гэта я—ў лужы?! ўрабіўся як парсюк;

выліквідаваць, бяручы для сябе толькі $^1/_3$ часьць сэрвітутаў, а рэшты „zrzekają się“.

Такія ўмовы падобна ўжо падпісалі прадстаўнікі некаторых вёсак Варапаеўскае воласьці.

Дык вось, папераджаючы тых сялян, якія яшчэ не зрабілі ўмовы на $^1/_3$ часьць сэрвітутаў пры ліквідацыі, я рашыў падаць да іх ведама сэнс вышэйпаказанай уставы, каб яны мелі аб ёй разуменьне і маглі ёю карыстацца. Бо, як відаць, ніхто нашымі справамі ня цікавіцца і бараніць нашыя інтарэсы ня хоча.

Хацелася-б верыць, што павятовы зямельны камісар, пачуваючыся да сваіх абавязкаў, справу ліквідацыі сэрвітутаў будзе трактаваць так, як кажа аб гэтым успомненая мною устава, і да ўсякіх надужыцьцяў у гэтай справе не дапусьце.

*Чычынка.*

### Як праводзіліся выбары ў самаўрад.

(м. Лужкі, Дзісьненскага павету).

Выбары ў валасную раду ў нашых Лужках адбываліся 26 чэрвеня ў нядзелю. Сабралася аж 115 выбаршчыкаў, сярод каторых фігуравала значная колькасьць паноў, асаднікоў і жыдоў. Прыбыўшы на выбары інспэктар аб'ясьніў выбаршчыкам выбарны закон, парадак і каго найлепей праводзіць у самаўрад. Нажаль, высокі дыалект польскага языка ў інспэктара пакрыўдзіў некаторых нашых беларусаў-выбаршчыкаў, каторыя не зразумелі, што пры галасаваньні ня можна рабіць на картках якіх-колечы прыпісак, апрача чыстай цыфры. Якраз, на бяду, напаўна $^1/_3$ часьць выбаршчыкаў паставіла на сваіх картачках то кропкі, то нумар, галасы каторых камісія палічыла няважнымі. Кандыдацкіх сьпіскаў выстаўлена 9. Каб ухіліцца ад непаразуменьня ў сэнсе прыпісак, цыфра 9-га сьпіску заменена на цыфру 10.

Падлічыўшы галасы, аказаліся выбранымі: 8 беларусаў з вёсак і мястэчка, 2 абшарнікі, 1 жыд і 1 асаднік.

Як павядуць працу нававыбраныя ў раду, няведама, але сяляне дзякуюць Богу, што пазбыліся бяды — дрэннай памяці старой рады.

*Янка Тарыкоў.*

### Аб выбарах валасной рады ў Браславе.

Выбары па вокругах адбываліся 27 траўня 1927 г. пры малым ліку зацікаўленых. Агітацыя паміж беларусамі і палякамі вялася вострая. У самым Браславе выбары адбыліся 31 траўня. У валасную раду ўвайшлі: 3 палякі, 2 жыды, 6 беларусаў і 3 несьвядомыя беларусы. З гэтых 3, адзін хоць і ня быў на ніякім сьпіску кандыдатам, аднак у раду папаў,—так хацелі палякі.

Протэст баяліся зложыць.

Чуваць, што ўлада незадаволена рэзультатамі выбараў.

*Зыдар Зарdк.*

### Назначаны войт.

(Жодзішкі, Вялейск. пав.).

Мінуў ужо цэлы год ад выбару валасной рады у Жодзішках, але паміма таго, што ўжо даўно адбыліся выбары войта, толькі цяпер маем новага войта, але, нажаль, ня выбарнага, а назначанага. Два разы валасная рада выбірала на войтаў людзей, якім ані народ, ані Урад нічога закінуць ня можа. Але былі яны сьвядомымі беларусамі і гэтага хапіла, каб іх не зацьвярдзіць.

Войтам з назначэньня ёсьць п. Гальлярд — уласьнік фальварку Пілавайцы, Жодзіскае воласьці, які не належаў ані да валасной рады, ані нават да валаснога сабраньня. Проціў асобы п. Гальлярда мы, беларусы, яшчэ нічога ня маем дрэннага, наадварот, ён можа мець і свае добрыя ста-

---

новую вопратку і боты запэцкаў... Чаму гэта я ўночы тут?“

І ён задумаўся, усё яшчэ стоячы ў лужы.

„Ага! цяпер успомніў! — ударыўшы сябе па лобе, шаппуў ён: — гэта музыка была ў Пётры старога... Водку пілі... я, здаецца, пасварыўся з Андрэем і... мяне выгналі адтуль... Выгналі!“

Ён некалькі разоў паўтарыў гэнае слова, сьціскаючы кулакі і скрыгічучы зубамі.

„Выгналі — і перад усімі! гэтага я не забуду— ад'імшчу! Ў сто гадоў аддам!“

І ён, выйшаўшы з лужы, пайшоў па дарозе, абкружанай шаптаўшым жытам, да хаты.

V.

— На другі вечар, пасьля апісанага здарэньня, стары Пётра з сям'ёю вячэраў, нарабіўшыся за дзень— зажалі жыта. На лаве сядзеў сусед з вёскі — ён часта прыходзіў да Пётры. Сьцямнела.

— Але добрая была ў вас учора музыка! — сказаў сусед, сьмяючыся.

— Добрая?!—адказаў гаспадар: — напапіваліся і парэзацца хацелі!

Тут ён глянуў на Андрэя.

— А гэны паршывец, Іван, як сьвіньня, ляжаў у лужы... Сорам!

— Яму цяперака ў вёсцы прайсьці не дадуць: „парсюк“ і „парсюк“ кожны кажа, мала той не шалее са злосьці...Але і вы, дзядзьку, былі ўчора таксама трошкі... таго...

Стары Пётра хацеў нешта адказаць, але ў гэны міг вялізарны камень, кінуты некім, трэснуў у вакно. Усе шыбы, звонячы, павыляталі. Сядзеўшыя ў хаце ўсе выскачылі на двор. Па дарозе, заклаўшы рукі ў кішані, аддаляўся Іван.

— А каб цябе разарвала, каб ты здох, шчаня! каб ты... — пачала клясьці гаспадыня.

— Гэны разбойнік пабіў, — сказаў Андрэй.

— Я цябе дастану, я табе дам — крычаў Пётра, махаючы кулаком усьлед адходзіўшаму.

Той адвярнуўся і паказаў хвігу:—Маеце!—сказаў і пайшоў далей.

— Што яму зрабіць? — казаў Пётра, прыйшоўшы да хаты. Жонка завешвала мяшкамі пабітае вакно, клянучы вінавайцу.

— Падайце ў суд, — парадзіў сусед.

— Гэтак і зраблю, далібог, зраблю! вы, Сьцяпан, будзеце за сьведку; — я яму пакажу! — гарачыўся Пётра.

роны, як чалавек тутэйшы, а ня прысланы з Галіцы, з большай адукацыяй, ды як, здаецца, аграном, можа шмат добрага зрабіць у валасной гаспадарцы. Але, паглядзеўшы на гаспадарку ягоную ў сваім фальварку, нічога добрага не варожым для валасной гаспадаркі. Фальварак яго не разьвіваецца і гаспадарку там вядзе новы войт блага.

Мо' ў воласьці пойдзе лепш. Спадзяёмся палепшаньня польска-беларускіх адносін, бо лягчэй дагаварыцца з сьветлым чалавекам, хоць-бы ён быў і іншай народнасьці, як з якім там цёмным мужычком, які, баючыся страціць пасаду і дзякуючы сваёй несьвядомасьці, шкодзіць спакойнаму сужыцьцю.

Пішу гэта ня з мэтай шкодзіць у чым-нібудзь п. Гальлярду, але хачу выявіць тыя думкі, якія маець тутэйшае беларускае жыхарства. Беларускае жодзіскае жыхарства моцна сьвядомае і дамагаецца спаўненьня яго культурна - гаспадарчых патрэбаў.

Да ўрэгуляваньня адносін, якнайлепш і справядлівей, сьветлы і разумны войт можа прычыніцца.

*Калінка.*

### Спэктакль „Беларускага народнага тэатру“.

(Жодзішкі, Вялейскага пав.).

У нядзелю 26 мінуўшага чэрвеня прайшоў якраз год ад пастаноўкі першага беларускага спэктаклю-вечарыны ў Жодзішках. Ад гэнага часу пачалі часьцей ладзіцца беларускія спэктаклі і ў гэны ўгодкавы дзень Віленская тэатральная трупа „Беларускі Народны Тэатр“ прыбыла ў Жодзішкі, дзе ставіла камэдыю „Мікітаў Лапаць“ і „Суд“. Першая ўдалася вельмі добра, другая нявельмі, замала было жыцьця ў артыстаў. Наагул „Беларускі Народны Тэатр“ зрабіў добрае ўражаньне. Адно толькі далося заўважыць непатрэбнае: артысты часта ўжываюць расейскай мовы, а пасьля на сцэне ла‘т чутны расейскія словы. Трэба зьвяртаць больш увагі на чыстату беларускае мовы. Артыстаў хацелі-б бачыць часьцей у нас.

*Наглядчык.*

## Выбары прэзыдыуму Віленскае Гарадзкое Рады.

14 ліпня г. г. а гадз. 8 увечары адбыўся першы сход нававыбранае Гарадзкое Рады. Першае ўражаньне, якое кожны аднёс, гэта адасабленьне, ў якім асталася эндэцыя. Бачачы, што ім ня ўдасца другі раз дайсьці да ўлады, эндэцкія радныя пастанавілі ня высоўваць кандыдатаў на прэзыдэнта гораду і Гарадзкой Рады і даць белыя карткі. Свой крок мотывавалі яны тым, што ім не ўдалося супрацоўніцтва з П. П. С., каб стварыць польскую большасьць. Пры выбарах былі пастаўлены гэткія кандыдатуры: Вітольд Чыж — П. П. С., Аляксандар Лэдніцкі—дэмакрат, Лучынскі, Кузьма Крук — беларус. Выбралі Александра Лэдніцкага — былога маскоўскага адваката і сябра расейскае кадэцкае партыі. Дастаў ён 20 галасоў: жыдоў, беларуса, ліцьвіна, консэрватыстых і дэмакратаў. Віцэ-прэзыдэнтам выбраны пэпэ-эс Вітольд Чыж.

## Да нашых корэспондэнтаў!

Рэдакцыя просіць усіх нашых корэспондэнтаў з вёскі прысылаць весткі аб тым, як прайшлі выбары ў валасныя самаўрады, колькі выбрана беларусаў і іншых нацыянальнасьцяў і наогул асьвятляць выбарчую кампанію.

„Добра будзе, калі пагрызуцца трохі, на суд паеду—ведама Пётра выпіць дасьць; і той, можа, каб на яго ня сьведчыў, напоіць... Карысьць буду мець і з аднаго і з другога“, — думаў Сьцяпан, і, пасядзеўшы яшчэ трохі, пайшоў да хаты. Пётра з сям‘ёю зараз-жа лёг спаць.

„Заўтра-ж паеду падаваць“,—думаў засынаючы Пётра.

VI.

— Ведаеш што, Іван, — сказаў Сьцяпан: — Пётра - хутарнік цябе ў суд паехаў падаваць!

І сам глядзіць на Івана, ці спалохаўся ён, ці не. З незадаволеньнем заўважыў, што на твары Івана не адбілася нічога...—„Ня дасьць выпіць“,—падумаў.— Хай падае, я не баюся; яшчэ яму нараблю!—злосна сказаў Іван і адыйшоў. Сьцяпан пастанавіў быць увечары ў Пётры і сказаў яму аб гэтым. А ў Пётры ад гэтага часу было нядобра: нехта параскідаў яму жыта, пастаўленае ў дзесяткі, рваў і таптаў канюшыну і выкошваў кругі ў аўсе. Колькі ночаў ні пільнавалі — злодзея і шкодніка гэнага злавіць не маглі. Заспрытны ён быў. „Гэта той так робіць“, — кіпеў Пётра, але, ня ўбачыўшы нікога, ня мог ведаць гэтага напэўна.

VII.

— Ну, памірэцеся, чаго вам гэта сварыцца і біцца, —казаў судзьдзя Пётры і Івану,—лепей для вас будзе!

— Я, паночку, гатоў памірыцца, хай ён толькі за вакно мне заплаціць,—сказаў Пётра. Іван сядзеў і думаў: „Сьведка пакажа на мяне і мяне пакараюць. Памірыся ляпей, але свае абразы не забуду, усё роўна а‘імшчу яму“.

Падняўся з лаўкі і падыйшоў да Пётры.

— Выбачайце, дзядзьку, — сказаў, — вось вам і грошы; цяперака будзем жыць у міры.

— Выбачаю, выбачаю, — сказаў Пётра, прымаючы грошы;—ты туттака зашмат мне даў.

— Нічога: што трэба за вакно, а рэшту за зьнявагу вашую, — адказаў Іван з таемнай усьмешкай на вуснах.

— Пайдзем, абальем нашую згоду, — запрапанаваў Андрэй.

— Пайдзем — я плачу за ўсё, — сказаў Іван. І пакінулі ўсе—Пётра, сьцяпан, Іван і Андрэй—салю суда.

— Ну, адна справа прайшла добра,—сапнуўшы сказаў судзьдзя сэкрэтару.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Нішчэньне сьметнякоў.

Здаецца нідзе гэтак палеткі не засьмечаны рознымі непатрэбнымі травамі, як на Беларусі. Шкода, якую прыносяць сьметнякі на палёх, вельмі вялікая: яны адбіраюць ад высяваных расьлін збожжа ваду, корм і сьвятло, дык ураджай на засьмечаных палетках заўсёды бывае ў два-тры разы меншы, як павінны быў-бы быць на чыстых палёх. Усе сьметнякі разьдзяляюцца на гадавыя і многагалетнія, гэта значыць, што адны травы жывуць толькі адно лета і прападаюць, але з іх насеньня на другое лета ізноў растуць такія самыя травы. Іншыя травы — многагалетнія жывуць па некалькі гадоў, часта маюць вельмі доўгі корань, які глыбока ідзе ў зямлю старчаком, або карэньне іх сьцелецца пад верхнімі слаямі зямлі, як-бы вяроўкі, і гэтакі корань носіць назоў „карнявішча", ад вочак якога кожны год і паяўляюцца новыя атожылкі травы. У нашым краі на палетках больш за ўсё спатыкаюцца аднагадовыя і многагалетнія сьметнякі, якія належаць пераважна да сям'і: крыжацьветных (Cruciferae), люціковых (Ranunaclaceae), парасонных (Umbelliferae), складанацьветных (Compositae), макрычных (Alsinaceae), і зельлявых (Gramineae).

Усе гэтыя сьметнякі ў розных мясцовасьцях носяць розныя назовы, дзеля чаго мы будзем разам з тым падаваць і іх правільны батанічны назоў. Да аднагалетніх залічваюцца: лебяда (Chenopodium), мак-самасейка (Papavier), васілёк (Centaurea), аўсюг (Bromus), валовае вочка (Anthemis), малачай (Leontodon taraxacum), кукаль, макрыца (Alsinaceae), сьвірэпіца (Brassica rapa oleifera), зязюльчын лён (Lychnis flos cuculi).

Да многалетніх: чортапалох (Cirsium oleraceum), конскі шчавель кіслы (Rumex acetosa), крапіва двудомная (Urtica dioica), палын (Artemisia), асот (Sonchus), і самая цяжкая трава дзеля зьнішчэньня пырнік (Triticum repens).

Дзеля барацьбы з сьметнякамі перш за усё трэба прымаць меры папераджальныя, г. знач. — не дапушчаць, каб насеньне іх пападала на поле, дзеля чаго трэба: 1) заўсёды вельмі добра ачышчаць насеньне збожжа, 2) угнойваючы поле гноем з хлява, трэба старацца, каб у гной не пападала насеньне сьметнякоў і ніколі ня можна высыпаць у хляве патрухі з сена; ня вывозіць з хлява неперапрэўшага гною, бо насеньне благіх траваў вельмі жывучае, 3) дбаць аб тым, каб насеньне дзікіх і благіх траваў з межаў і дарог не пападала на загоны, дзеля чаго, яшчэ да цьвету іх, абкошваць усе межы, і 4) па меры магчымасьці палоць і вырываць, або скошваць, як сьвірэпіцу пад аўсом, усе благія травы.

У апошнія часы за граніцаю часта з добрым рэзультатам нішчаць сьвірэпіцу 15% рошчынай жалезнага купэрвасу, якім абліваюць сьвірэпіцу яшчэ тады, калі яна толькі выпусьціла 4 лісткі. Але трэба заўважыць, што гэткім чынам можна толькі бароцца з ёю, калі яна расьце паміж збажовымі — аўсом, ячменем, або лёнам, а паліваць сьвірэпіцу купарвасам паміж матыльковымі — гарохам, бобам, канюшынай,—ня можна, бо расьлінам самім зашкодзіць; а збажовыя не баяцца паліўкі. Каб зьнішчыць пырнік, то гэтаму вельмі памагае першае вельмі мелкае араньне ў сухую

---

VIII.

Іван стаў вельмі добры з Андрэем і з Пётраю; часта хадзіў да іх і пачынаў думаць, ці ня кінуць яму свае думкі аб помсьце. Калісьці ён завёўся з адным суседам і той сказаў яму: „сьвіньня ты!, парсюк; помніш, як цябе з хутару выганялі і як ты ў лужы спаў!"

Іван сьціснуў зубы і пайшоў у хату, пакінуўшы суседа на вуліцы.

„Ага, гэтак усе будуць дразьніць... да канца жыцьця! — Не, хай вінавайцы адпакутуюць!" І пахмурна паглядзеў на сваю матку, што ставіла перад ім сьнеданьне ў місцы.

———

Цёмная жніўнёвая ноч. Па дарозе да хутару падкрадаецца нейкая постаць. Вось ужо плот, — постаць пераскочыла цераз яго; сабак на хутары ня было і ніводзін гук не павітаў прыбыўшага. Ён дакраўся да гумна, стаў пад страхою і аглядзеўся. Можна было распазнаць твар Івана. Чаго ён прыйшоў сюды ў гэткі позьні час?... Запхнуў нешта пад страху і запаліў сернік. Сунуў яго пад страху — сернік патух, але запахла паленаю ганучаю... Потым Іван падкраўся да хаты і там зрабіў тое самае, што і каля гумна. Пасьля пастаяў, аглянуўся на ўсе бакі і панюхаў паветра. Потым пераскочыў ізноў цераз плот і пабег дарогаю да хаты.

Хутка, пасьля таго, вёску, стаяўшую недалёка ад хутару, разбудзілі крыкі: „пажар! пажар!"

— Дзе пажар? — пыталіся адны ў адных мужыкі, выскачыўшы з хатаў у адным порці і, ад перапалоху, страціўшы розум.

— Хутар гарыць!

Усе беглі туды, хто мог: старыя каб памагчы, дзеці каб паглядзець на „страшнае зьявішча", бабы, каб пагаварыць і пашкадаваць... Вялізарнае полымя стаяла над хутарам; гарэла хата, хлеў, гумно і сьвіранчык— усе будынкі Пётры. Сам ён стаяў, як акамянелы, гледзячы нярухомымі вачыма на пажар. Жонка яго галасіла. Андрэй ляжаў тварам да зямлі, а брат яго стаяў з бессэнсава-дурным выразам твару і глядзеў на пажарышча...

Сярод прыбегшых быў і Іван. Ніводнае чуцьцё спогаду не заварушылася ў яго душы. «Маеце сабе... за мае цярпеньне!» —думаў ён, стоячы, і трыумфаваў...

Пажар тух; векавыя ліпы і дубы, напалову апаленыя, стаялі, сумна шумячы. На ўсходзе запальвалася полымя новага дня, які гэтак спакойна сустрачаў нягоднік — Іван.

Сяргей Белайц.

пагоду, а пасьля поле добра трэба выбаранаваць бараною, або мелка запушчанаю спружыноўкаю, гэтак, каб карнявішча пырніку можна было сабраць і спаліць. Пры мелкай ворцы на зяб карнявішчы пырніку, часта вымярзаюць, а калі поле пазваляе, то аруць і вельмі глыбока, каб засыпаць карнявішчы пырніку, тады яны, як кажуць, задыхаюцца ў зямлі. Калі пералічанымі спосабамі ўсё-ж такі не ўдаецца ачысьціць поле ад сьметнякоў, то трэба абавязкова прымяніць колькі гадоў замест гною і лубіну штучныя гнаі, з якіх на першым месцы будзе: кайніт, або калійная соль (паташовая), якая, пасыпаная на поле да пасеву, вельмі добра нішчыць і пераядаюць карэньні сьметнякоў, пасьля будзе памагаць гэтаму амонавая серка, або чылійская салетра (азотныя), і томасшляк або супэрфосфат (фосфарна-кіслыя). Усе гэтыя гнаі вельмі патрэбныя і карысныя пад усялякае збожжа, травы і бульбу, замяняюць часта лепей, чым гной з хлява і, апрача таго, радыкальна нішчаць сьметнякі.

І напасьледак трэба сказаць, што, калі кавалак поля вельмі засьмечаны благімі травамі, то трэба на гадоў тры—шэсьць перастаць на ём сеяць зусім яравое збожжа, а толькі ўжываць пад бульбу, і вось гэткімі мерамі можна пазбавіцца сьметнякоў.

Разумеецца, што ўсе меры барацьбы з сьметнякамі на палёх многа лягчэй вясьці тым гаспадаром, якія павыходзілі на хутары, бо такі гаспадар, як кажуць, бачыць свой палетак кожны дзень, дый пладазьмен (севазварот) яму лягчэй завясьці многапольны, што таксама памагае зьнішчэньню сьметнякоў. Словам, гаспадар на хутары, калі пасеяў чыстым адборным насеньнем, або ачысьціў сваё поле, то ад суседа ня так ужо засьмечваецца яго поле, і ён гаспадарыць, як яму падабаецца, а на шнурках па дзьве - тры вярсты даўжынёю трудна гаспадару бачыць, што ў яго робіцца на полі, ды яшчэ раскіданым на 9 — 18 кусках.

Але, як ні ёсьць, а трэба ўпарта бароцца з сьметнякамі; памятайце, што чыстае поле дае больш ураджай збожжа ў два - тры разы!

*Я. Х.*

## Што шкодзіць дойнай карове.

На практыцы вельмі часта трапляецца, што тады, калі трэба даіць карову — яна не даецца. Гаспадыні час дарагі, трэба сьпяшацца, а карова альбо выб'е альбо накідае поўную дайніцу сьмяцьця.

Як толькі карова пачала брыкацца ды не дае даіцца, трэба знайсьці таму прычыну. Дзеля гэтага трэба абглядзець вымя і, як толькі яно зачырванелася, альбо патрэскаліся цыцкі—чакаць ня можна, а заразжа трэба ўзяцца за лячэньне, бо чым далей, то ўсё будзе горай, і нарэшце зусім даіць каровы ня будзе можна. Адкладаць лячэньня ў доўгую скрынку нельга, бо інакш мы ня будзем мець ад каровы таго малака, што маглі-б выдаіць — гэта раз, а па-другое, ад няпоўнага здойваньня малака, карова і ў далейшым будзе збаўляць удой, а па-трэцяе ад гэтага-ж прыкідаецца хвароба г. званае «запаленьне вымя» — рэч вельмі паганая.

Лячыць карову трэба так: вымя яе добра абмыць цёплаю вадою з мылам і дасуха выцерці, а цыцкі памазаць або несалёным топленым салам — або вазэлінаю, добра памагае таксама і сьмятана. Шмараваць найлепш на - нач, калі скаціна стаіць у хляве. Калі-ж ранкі паробяцца дужа вялікімі і пачынаюць гваіцца, дык трэба прамываць сулемою,—на адну часьць сулемы бярэцца 1,000 часьцей вады, бо гэта страшная атрута,—ці рошчынаю карболкі з аліваю, а гэта робіцца так: пяць часьцей карболкі і пяць часьцей алівы разьмешваюцца, і гэтым шмаруюцца цыцкі. Ужываць лекі трэба тады, калі карова ўжо выдаеная, а перад даеньнем вымя добра абмываюць цёплаю вадою з мылам, каб лякарства не папала ў малако. Пры даеньні, з каровамі трэба абходзіцца ласкава, спакойна, бо крык ды штурханьне каровы ніколі не паможа, а яшчэ горш знэрвуе яе. Даіць трэба ня двума пальцамі і не адцягваць цыцкі, а браць цыцку ўсей далонямі ў руку.

Калі-ж карова не стаіць спакойна, дык прыходзіцца яе трымаць. А гэта робяць так: становяцца з правага боку і праваю рукою трымаюць карову за рогі, а левую кладуць на сьпіну і лёгка прыцiскаюць, тады карова стаіць спакойна. Каб ня трэскаліся цыцкі, трэба добра даглядаць вымя. Трэба заўсёды, пасьля даеньня, выцерці яго на-суха, каб з мокрым вымем карова ня вышла на вецер, бо тады яно паколецца.

Ніколі ня можна даіць каровы на вятры. На пасьбішчах ня трэба заганяць у балота ці рэчку. У хлявох трэба дапільноўваць чыстату. Ёсьць такія каровы, што не даюцца даіць з роду; такая карова для гаспадаркі нявыгадная, бо яе трудна адвучыць ад гэтае прывычкі. У такіх выпадках стукаюць палачкай па кончыках рагоў, кладуць мокрую анучку на хрыбёт каровы, але ня ўсе каровы слухаюць гэтых спосабаў. А вось спакойнае, ласкавае абходжаньне з скацінаю—гэта самыя найлепшыя спосабы.

(„Наше Життя“). *І. Люшук.*

## Падкоўваньне коняў.

У нашых вёсках кавалі, здаецца, мала маюць веды датычна каваньня коняй, псуюць капыты тымі сваімі стругамі, дык падаём пару радаў, як трэба каваць коні.

Праўдзівае і рацыянальнае куцьцё капытаў палягае на выпаўненьні і пільнаваньні гэткіх варункаў:

Перш за ўсё, кожная добрая падкова павінна быць зроблена з цэлага і новага куска жалеза; шырыня яе павінна раўняцца падвойна таўшчыні аснаўнога краю рагавое сьцяны данага капыта.

Прыступаючы да падкоўваньня, трэба старую падкову адрываць вельмі ўважна, каб ня выламаць рагавое сьценкі, і з гэтай мэтаю пры выцягваньні цьвікоў нагінаць абцугі ўдоўж падковы, але ніколі ня ў бок. Затым, зьняўшы падкову, капыта трэба праьвільна выстругаць, а знача: перш за ўсё застругацпадошву і гэта, галоўным чынам, толькі адзін адросшы, мёртвы, рог, які крышыцца, і толькі тады абрэ-

зацъ бераг рагавое сьценкі навакола. Ніколі ня трэба абрэзваць кутка ці гэтак званых апораў, што аслабіла-б рагавую сьцяну. Рагавое ракавіны шмат абрэзваць нельга, а толькі выраўняць яе.

Дзеля струганьня капытнага рога нельга ўжываць ніякіх лапатак або „стругоў“, але ўжываць для гэтай мэты спэцыяльныя капытовыя нажы. Ніколі ня трэба прыганяць да капыта распаленае да чырвонага падковы, бо гэта крышыць рог; пры прыгонцы трэба помніць, што вонкавы бераг падковы павінен выступаць на два мілімэтры з-пад берагу капыта, а пры пятках крыху больш (да 5 мм.). Падкова на баку, які прылягае да падошвы, павінна быць належна выгнута, каб ня ціснула падошвы; у падкове ня трэба рабіць больш як шэсьць дзірак для цьвікоў. Вельмі важным зьяўляецца самае прыбіваньне падковы да капыта: тут трэба памятаць, каб вострыя канцы цьвікоў ня выйшлі вышэй як на 1/3 часьць сьценкі капыта, таму што лёгка можна загвазьдзіць каня.

Глыбіня раўчака ў падкове і месцаў для цьвікоў павінна быць гэткае велічыні, каб галоўка цьвіка магла цалком у кожным з іх памясьціцца і каб з іх не выступала; пярэднія дзіркі павінны быць аддаленыя адна ад аднае ня больш як на 30 сантымэтраў; адлежнасьць паміж дзіркамі павінна раўняцца шырыні падковы.

Добры каваль павінен разумець, што рацыянальнае падкоўваньне каня павінна мець індывідуальнае датарнаваньне, г. знач., што нельга каваць усіх коняў аднолькава паводле шаблёну; кожная падкова павінна быць асобна цесна прыгнана да данага капыта і захоўваць яго форму.

Калі капыты няправільныя ад прыроды, напр., крывыя, кароткія і г. д., дык нельга іх адрэзваць, пілаваць і наагул „папраўляць“, але падкаваць іх так, як гэтага вымагае іхняя форма.

Пры падкоўваньні коняй, якія капыцяцца, г. зн., ударающь заднімі падковамі аб пярэднія падковы, трэба на пярэдніх падковах зрабіць шыпы косыя да пераду.

### Што рабіць, калі конь ня хоча есьці.

Усім ведама, што на Беларусі без травасеяньня часта не хапае ў гаспадароў корму—сена, і дзеля гэтага з маладых гадоў коні кормяць пераважна сечкаю з жытняе саломы, Ад гэтага досыць часта бывае, асабліва зімою, што конь якбы бяз прычыны перастае есьці, і, як кажуць, перападаецца, слабее, а калі трохі есьць, то неахвотна і памалу. Гэта бывае найбольш ад таго, што куткавыя зубы верхняе сківіцы з надворнага боку, а зубы сподняе сківіцы з сярэдзіны маюць вельмі востры край і калючы, як шпількі на зубох, які часта псуе і раніць язык і дзёсны і робіцца, гэтак званыя „заедзі“. Усяму прычына — гэта ад заўсёднага цьвёрдага корму зубы няправільна сьціраюцца. Калі ў пору ня прыняць меры, то усё гэта затрудняе вельмі жаваньне канюі можа зусім конь абясьсілець, або і прапасьці, а гаспадар рэдка калі загляне каню ў рот. Заўважыўшы біяду, шукае шэптаў ды падсыпае больш мукі ў сечку, якое конь ня хоча есьці. Калі гэта бывае, то няроўныя зубы і ўсе вострыя шпенькі трэба сьпілаваць доўгім і плоскім напільнікам, канец якога моцна абматаць пакулем, або абтачыць — закругліць, каб не параніць зубы. Каб зручней было падпілоўваць зубы, трэба ўзяць кавалак тоўстага дроту, як восілка ў вядры, ў якой адзін конец прывязаць за вушка моцнаю цясёмкаю за верхную сківвіцу, а другі канец — за споднюю сківу, тады конь ня можа зашчаміць рота Апрача таго, паміж пярэдніх зубоў уставіць дзеравяную калодачку—распорку даўжыні 2-3 цалі, каб конь ня сьціскаў зубоў. Усё гэта паважна абдумаўшы можа зрабіць кожны гаспадар сам і, гэтакім чынам, зраўняць каню зубы, які, пасьля сьпілаваньня, пачне хутка папраўляцца і добра есьці. Калі дзе блізка ёсьць вэтэрынар, то варта павясьці хворага каня да яго, бо ў вэтэрынара заўсёды ёсьць асаблівы напільнік дзеля гэтае мэты. Хвароба гэта бывае, як у маладых, так і ў старых коняй і досыць вельмі часта. Прыкмета: конь жуе і ў яго цячэ многа сьліны ў роце, і паміж зубоў і дзёснаў сядзіць жавацйна; калі конь жуе, то чутно асаблівы характарны шум-хруст ад зубоў. На языку або дзёснах заўсёды ёсьць раны. Дык вось, гаспадары, зварочвайце на гэта вашу ўвагу.

*Я. Х.*

### Як дастаць грошы на куплю штучных гнаёў.

Прачытаўшы загаловак гэтага артыкулу „Як дастаць грошы на куплю штучных гнаёў“, нехта з чытачоў перш-наперш падумаець, што тут ёсьць звычайная парада, як дастаць грошы з банку ці з пазычковае касы. Але чытач зараз угледзіць, што тут ходзіць аб чым іншым. Справа ў тым, што кожная земляробская, перш за ўсё, сялянская гаспадарка, можаць мець кошты на куплю штучных гнаёў у тую пару, калі нават няма скуль узяць грошай, хоць ты трэсьні! Пара гэта ёсьць якраз тады, калі трэба купляць попел і пара сеяць азіміну. Багацейшыя гаспадары, маючы грашовы зварот, едуць у места і купляюць попелу, сколькі каму трэба, тады, як бяднейшыя гаспадары, разумеючы вялікую карысьць ад штучных гнаёў, толькі цмокаюць губамі, што: трэба купіць хоць з мяшочак попелу, ды няма за што рук зачапіць, а жыта прадаць — сабе ня будзець хлеба. І так застаюцца толькі з надзеяй, што у будучым годзе будзе інакш.

Незалежна ад багацейшай ці большай гаспадаркі, ёсьць магчымасьць кожнаму гаспадару-земляробу набыць штучныя гнаі коштам зьменшаньня высеву насеньня. Напрыклад, замест высяваных 9 пудоў, высяваем на такую-ж плошчу толькі 6 пудоў. Тры пуды застаецца на закупку штучнага гною. Радзей пасеяная азіміна ўдаецца шмат лепшая і ўмалотнейшая, чымся пасеяная густа ды пуста, бо прадаўшы пакіненыя тры пуды жыта і за выручаныя грошы купляем прыблізна пяць пудоў попелу.

Трэба зазначыць, што вышэйзложанае тычыцца вясковых земляробскіх гаспадарак, дзе яшчэ і дагэтуль трымаюцца старога звычаю сеяць густа.

Дык, каб мець магчымасьць купляць штучныя гнаі, каторыя пад азіміну неабходна мусяць ужывацца, трэба кінуць стары звычай сяўбы цэлаю жменяй, а сеяць лепш шмат радзей. Тое, што засталося ад сяўбы ў эканоміі, насеньне, якое было-б расcеяна, калі-б сеялі цэлай жменяй, прадаць і купіць попелу. Можна напэўна сцьвярдзіць, што ад гэткае камбінацыі адтрымаем ураджайнасьць азімага пасеву ў паўтара раза і зярнё будзе значна лепшага гатунку.

*Янка Тарыкоў.*

# Гаспадарчыя парады.

## Хворая карова.

Пытаньне: Я купіў карову разам з цялём. Карова вельмі худая. Цяля я зараз адлучыў, а аб карове маю ўражаньне, што яна хворая. Мала есьць, час ад часу булькоча ёй у горле так, як-бы ёй нешта адбілася; думаю, што яна хварэе жыватом; з вачэй у яе цякуць сьлёзы. Прашу рады.

Адказ: З мэтаю папраўленьня худое каровы радзім яе карміць пшанічнымі вотрубямі і паранаю бульбаю, да чаго дамяшаць 3 разы ў дзень па паўтары сталовыя ложкі гэткае мешаніны: 400 грамаў караня аеру ў парашку, 200 грамаў гэнцыянны ў парашку, 200 грамаў амоновага флёрку і 800 грам. кухоннае солі, паіць летнім пажыўным мучным пойлам, а таксама даваць пару літраў малака штодзень. Таксама абавязкова, каб яна прабывала якнайбольш на сьвежым паветры і на добрым пасьбішчы. Калі карова кашляе, дык неабходна, каб яе зравідаваў вэтэрынарны лекар, каб даведацца, ці няма сухотаў.

## Хворы конь.

Пытаньне: У мяне захварэў конь. Праявы хваробы: конь падупаў на ногі, зусім пакінуў хадзіць, і зад, пераважна ў ваколіцы тазавых мускулаў, вельмі спух. Хворыя месцы я націраў моцным квасам і вінным воцтам. Пасьля двух дзён пухліна трошкі зыйшла з заду, а пачаў пухнуць перад. Я рабіў націраньні тарпатынаю, пры чым заўважыў, што конь мае зьмененую мочу. Тэмпэратура ў каня даходзіла да 37,8.

Ужываў лякарствы, якія радзіў лекар, і пухліна крыху пачала сходзіць, але спух лоб і язык, што таксама цяпер праходзіць.

Конь вельмі слабы. Як яго лячыць?

Адказ: З паданых Вамі праяваў відаць, што конь хворы конскім тыфусам; пачынаецца ён звычайна з катару носа і выступленьня ў ноздрах чырвоных плямаў, а затым пухне галава, пухнуць ногі, горла і трыбух; няраз цячэ з вачэй, конь блага бачыць і мала есьць. Гарачкі звычайна тут няма. Хвароба гэтая няраз цягнецца даволі доўга і найчасьцей канчаецца сьмерцю. Гэтага каня трэба адлучыць у іншы будынак, каб ня стаяў ён разам з коньмі здаровымі, а стойла пасьля яго ачысьціць і пабяліць; карміць яго мягкаю кашаю, вотрубямі і сенам, не даваць аўса і ніякае сечкі. Вочы прамываць разы два на дзень 2% рошчынаю борнага квасу, а ў нутро, як лякарства, даваць 1 гарбатнюю ложачку ангельскае крэоліны ў паўбутэльцы вады.

Пухліну разы два на дзень лёгка расьціраць парафінаваю масьцяй; штодзень каня крыху праводжваць, але толькі ў пагодлівыя дні, цёплыя, бяз ветру і дажджу.

# Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

## Як робіцца мыцьцё дзіцяці.

Мы ўжо ведаем, што купаньне дзіцяці павінна цягнуцца коратка — каля 5 мінут. У працягу гэтага часу трудна дакладна вымыць дзіця. Апрача таго, было-б непажаданым пагружаньне дзіцяці ў ваду, ўжо замучаную гразёю з розных часьцей цела. Вось-жа дзеля гэтага ў закладах для дзяцей перад купаньнем робіцца дакладнае мыцьцё дзіцяці, паводле пэўнага устаноўленага парадку. Пачынаем з галоўкі. Ваду для мыцьця галавы і твару наліваем у асобную місачку, а побач у слоіку маем рад падрыхтованых загадзя кавалкаў ваты. Гэтымі ваткамі прамываем перш за ўсё вочы ў дзіцяці; падтрымліваючы леваю рукою галоўку дзіцяці, перахіляем яе ў бок таго вока,якое мае быць вымыта і, пры заплюшчаных павеках дзіцяці, прамываем вочка ад вонкавага боку да ўнутранага — ў кірунку носа; затым сьвежаю змочанаю ваткаю робім тое самае і з другім вочкам. Пасьля вымыцьця вачэй прамываем па чарзе нос і вушы; з гэтай мэтаю скручваем ваткі падоўжна і пасьля зьвільгатненьня ўводзім далікатна ў абедзьве насавыя і вушныя дзірачкі, ужываючы кожны раз сьвежыя ваткі—адна ватка два разы ні ў якім выпадку ня можа быць ужыванай, наадварот, няраз трэба для аднае дзірачкі ўжыць некалькі ватак, калі выдзяленьне ня будзе ўхілена адразу. Нельга таксама акручваць ватак на калочкі, сернічкі або шпількі —гэта бязмэтна, а можа прычыніцца да пашкоджаньня дзіцяці. Дзеля поўнага ўмыцьця твару застаецца нам яшчэ роцік: тут мушу з вялікім націскам перасьцерагчы перад абмываньнем рота ў дзіцяці. Нават найдалікатнейшае абмываньне ваткамі языка і паднябеньня—непатрэбна, а можа прынясьці шкоду, таму што сьлізістая плёнка, што высьцілае рот, вельмі лёгка паддаецца параненьню. Плесьнякі, або белыя грыбкі, якія бачым у дзяцей, часьцей паўстаюць пры выціраньні рота, чымся тады, калі ня будзем яго чапаць, але каб папярэдзіць плесьнякі, маці павінна штодня мыць свае грудзі вадою з мылам — гэтага зусім хапае. Пасьля ўмыцьця твару, для чаго ўжываем большых кавалкаў ваты, намыльваем усё цела дзіцяці. Мыла найлепш нарыхтаваць сабе адразу на даўжэйшы час, рэжучы яго на дробныя кавалкі і распушчаючы ў мягкай пераваранай вадзе, пакуль яшчэ яна цёплая: на кварту вады хапае 30 грамаў (2 лоты) мыла. Для дзяцей найлепшае мыла гліцарынавае альбо пераклушчанае — гэткае мыла не павінна шчыпаць языка, калі ім да яго дакнёмся пры спрабаваньні дабрыні.

У гэтае жыдкае мыла пагружаем палатняныя лапінкі альбо рукавіцу (кішонку) з касматага матар'ялу і гэтым намыльваем цельца. Раней ужывалі дзеля гэтага

губкі, але цяпер ухіляемся ад іх, бо іх трудней утрымаць у чыстаце, як рукавіцу, якую лёгка можна, пасьля кожнага купаньня, выварыць і забясьпечыць ад пылу. З асаблівым стараньнем абмываем ваколіцы выхадное кішкі і выхаду мачавога каналу.

У дзяўчынак трэба далікатна расхіліць з гэтай мэтаю сорамныя губы і змочанаю ваткаю далікатна ўхіляць выдзяленьні, праводзячы ватку адным падоўжным рухам згары ўніз (у кірунку кішачкі) — ня трэба ніколі выціраць выдзяленьняў папярэчнымі рухамі і не вясьці аднае ваткі два разы, таму што гэтым спосабам можам лёгка ўцёрці астаткі калу ў ваколіцы мачавога выхаду і заразіць мачавы пузыр; дзеля належнага абмыцьця гэтых ваколіцаў, трэба ўжыць некалькі ватак. Пасьля абмыцця ўсіх выхадаў і намыленьня цельца, кладзём дзіця ў ванначку, высланую чыстаю пялюшкаю. Пялюшкай гэтаю змываем астаткі мыла з усяго цела. У ваньне галоўка дзіцяці ляжыць на нашай левай руцэ—глядзімо пры гэтам, каб вада не пападала ў рот, у нос і ў вушы. Пагружаем дзіця ў ваду памалу, мочачы перш за ўсё ножкі. Пасьля змыцьця мыла, добрая рэч, калі апаласкаць дзіця чыстаю вадою, загадзя нарыхтованаю ў асобнай місачцы. Купаньне цягнецца, як ведаем, найбольш 5 мінут; выняўшы з вады, кладзём дзіця на мягкую, нагрэтую пялюшку, разложаную на століку, дзе мы намыльвалі дзіця. Пялюшкай асушваем цельца дзіцяці, аднак-жа ўхіляючыся ад моцнага выціраньня, каб не пашкодзіць далікатнае скуркі; толькі галоўку (валасы) трэба мацней асушыць.

Мы ахвяравалі шмат часу і месца на абгаварэньне купаньня і мыцьця дзіцяці, таму што гэта запраўды справа даволі складаная, вымагае практыкі і зручнасьці; добра, калі пры купаньні можа нам хто-нібудзь памагчы, каб усё гэта было зроблена борзда і спраўна. Але на купаньне ня трэба шкадаваць часу і трудоў, бо яно зьяўляецца аснаўным варункам утрыманьня дзіцяці ў чыстаце. Дык і няма ніякага пераўвялічэньня ў тэй запаведзі, якую мацяркі заўсёды павінны мець у памяці, што „чыстата — гэта здароўе“.

(„Kultura“).

---

# ЮРЫДЫЧНЫЯ ПАРАДЫ.

Пытаньне: Бацька прадаў аднаму сыну цэлую гаспадарку. Ці рэшта дзяцей можа ўпамінацца свае часьці?

Адказ: Калі рэшта сваякоў не згадзілася на прадажу цэлае гаспадаркі свайму брату, то можна падаць у суд на падзел. Аднак, прысуд можа быць удачны толькі ў такім выпадку, калі ня мінула 30 гадоў ад сьмерці бацькі, з. зн. да даты адчыненьня спадчыны.

Пытаньне: Вёска пераходзіць на хутары. Мае будынкі старыя, я хацеў-бы на 6 дзесяцінным хутары збудаваць новыя будынкі. Ці Дзяржаўны Зямельны Банк дасьць мне пазыку ў ліку 2000 зл., на якіх варунках і што трэба далучыць да просьбы?

Адказ: Пры пераходзе на хутары пазыку могуць дастаць тыя, хто мусіць пераносіць свае будынкі. На будынкі даецца 1000 зл. і на выкапаньне студні 500 зл. Калі вы перавядзеце сваю зямлю цераз гіпотэку, можна тады старацца дастаць доўгатэрміновую пазыку на будынкі, палепшаньне грунтоў і г.д. Варункі адтрыманьня такой пазыкі знойдзеце ў № 16 „Бел. Дня“.

# Беларускае жыцьце у Чэхаславакіі.

## У справе расколу Сялянскага Саюзу.

Беларускі Сялянскі Саюз у Празе апублікаваў наконта выступленьня групы Я. Станкевіча (аднаднёўка „Народ“) гэткі камунікат, падпісаны інжынерам В. Лаўскім, як старшынёю праскае арганізацыі, і А. Орсаю, як сэкрэтаром яе.

„Апошнія падзеі ў краёвай арганізацыі Беларускага Сялянскага Саюзу, паводле прэсавых вестак, шмат каму сталіся прычынай дамыслаў, што акцыя групы, згуртаванай каля аднаднёўкі „Народ“, паўлася з ведама, а нават і волі Беларускага Сялянскага Саюзу ў Празе. Дзеля сьцьверджаньня сапраўднага стану рэчаў лічым патрэбным падаць да публічнага ведама гэтулькі:

Беларускі Сялянскі Саюз у Празе заснаваны быў у 1922 годзе і ў першыя часы свайго істнаваньня вёў падгатаваўчую працу дзеля пашырэньня свае ідэолёгіі, як заграніцай, так і ў Краі.

Увосень 1925-га году адбылася ў Празе Чэскай канфэрэнцыя прадстаўнікоў Беларускага Сялянскага Саюзу з паслом у Польскі Сойм грам. Ярэмічам, пасьля якой была заложана краёвая арганізацыя Беларускага Сялянскага Саюзу.

Акцыя групы, згуртованай каля аднаднёўкі „Народ“, кіраванай, паводле вестак прэсы, сябрам Беларускага Сялянскага Саюзу ў Празе грам. Я. Станкевічам вядзецца бяз ведама, а тым болей згоды Праскае Арганізацыі Бел. Сялянск. Саюзу.

Бел. Сялянскі Саюз ў Празе лічыць шкодным дзеля пашырэньня ідэі арганізацыі Беларускага Сялянства ўсякі падзел і нязгоду на ўлоньні кіраўніцтва тае ці іншае арганізацыі Бел. Сялянскага Саюзу.

Бел. Сялянскі Саюз у Празе заклікае ўсіх грамадзян-Беларусаў, якія жадаюць дабра свайму Народу, згуртавацца ў адзіную моцную арганізацыю Беларускі Сялянскі Саюз, і адкінуць ўсякія пэрсанальныя амбіцыі і спрэчкі, якіх, на вялікі жаль, Беларусы так шмат маюць.

Пры гэтым падкрэсьліваем, што Беларускі Сялянскі Саюз у Празе стаіць на грунце поўнай незалежнасьці Беларусі, адкідае абсалютна ўсе, якія-бы то нібыло, орыентацыі і цьвёрда пераканы, што крыніца сілы толькі ў Беларускім Народзе, у Беларускім Сялянстве.

Праз клясавую арганізацыю і сьвядомасьць Беларускага Селяніна да сьвядомасьці і арганізацыі нацыянальнае, да лепшае долі, да волі роднае Беларусі.

Прага-Чэская 2 ліпня 1927 г.

# Палітычныя навіны.

## ПОЛЬШЧА.

— 13-га г. м. дэкрэтам Прэзыдэнта Рэспублікі была зачынена над'звычайная сэсія сьпярша Сэнату, а пасьля і Сойму. Паводле інфармацыяў добра асьведамленых кругоў, галоўнай прычынай зачыненьня над'звычайнай сэсіі Сойму і Сэнату, была справа зьмены констытуцыі праз спробы ўвядзеньня права самароспуску законадаўчых органаў.

— Гэтымі днямі Польшчы ўдалося зрэалізаваць у Амэрыцы пазычку ў 15 мільёнаў даляраў.

## КІТАЙ.

— Чан-Кай-Шы спыніў наступленьне на поўнач. Паўднёвыя войскі сьцягнуты назад і ледзь ня зусім ачысьцілі провінцыю Шантунг.

Чан-Кай-Шы мае замер ліквідаваць чырвоны ханькоўскі урад.

— Пэкінскі суд звольніў Барадзіну і трох дыплёматычных савецкіх кур'ераў, арыштованых сваячасна на параходзе „Памяць Леніна".

## С. С. С. Р.

— У Менску 7 г. м. дайшло да бойкі між аддзелам Чэка і безработнымі. 250 безработных арыштована. Трох у гэту-ж ноч расстрэлены.

— 1-га ліпня ў Кіеве арыштованы камітэт антыбальшавіцкае арганізацыі, якая імкнецца да зьніштажэньня савецкае ўлады на Украіне.

У арганізацыю ўваходзілі прадстаўнікі сялянства, рабочых, інтэлігэнцыі і нават чырвонае арміі. Арганізацыя займалася шырокай агітацыяй, і мела нават некалькі збройных аддзелаў.

— Сталін вярнуўся ў Маскву і заявіў, што будзе далей вясьці вострую барацьбу з опозыцыяй Троцкага.

## АНГЛІЯ.

— Ірляндзкімі нацыяналістымі забіты ірляндзкі міністар справядлівасьці О'Хіккінс.

— З Англіі паволі высяляюць усіх савецкіх грамадзян.

## АЎСТРЫЯ.

ВЕНА, 15.VII. З поваду звальненьня членаў „фашыстоўскае арганізацыі", страляўшых да соц.-дэм., у Вене пачалася рэвалюцыя. Работнікі абвясьцілі дэмонстрацыйную забастоўку. Дэмонстранты здэмолявалі рэдакцыі „Wiener Neueste Nachrichten" і „Reichspost". Будынак Справядлівасьці ў агні. На вуліцы барыкады. Ідзе бойка між паліцыяй і дэмонстрантамі; лік раненых дасягае 1.000 чалавек.

## Б. С. С. Р.

### Звальненьне Чарвякова.

За сваю опозыцыйнасьць да Маскоўскага Ураду зволънены з пасады Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай Сав. Соц. Рэспублікі Алесь Чарвякоў.

Звальненьне Чарвякова маець вялікае палітычнае значэньне, бо з усіх заправілаў Б. С. С. Р. Чарвякоў быў адзіным камісарам, які, пасьля звальненьня Ігнатоўскага з пасады Народнага Камісара Асьветы, шчыра памагаў арганізацыі беларускага школьніцтва і культуры.

## Паштовая скрынка.

Клімантовічу. Чакаем корэспондэнцыі.

Пралесцы. Аб „сонцы" ня зьмесьцім. Падобнае калісь ужо друкавалася ў „Кгупісу".

Яйсон. Прышлеце свой дакладны адрэс, напісаны ясна і выразна.

Васілеўскі. № 17 „Белар. Дня" паслалі. Калі ня будзеце адтрымліваць—злажэце рэклямацыю на пошце.

Белановічу. Па адтрыманьні падпіскі, друкуючы №№ газэты зараз-жа вышлем.



Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń" Друк. „Рах", вул. Сьв. Ігната 5.